Кахновіч, В. А. Асаблівасці мадэрнізацыі памешчыцкай гаспадаркі на Палессі ў парэформенны перыяд Расійскай імперыі (1861 — 1914): рэгіянальная спецыфіка / В. А. Кахнович // Працы гістарычнага факультэта БДУ: Навук. зб. Вып. 4 / Рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.] — Мн: БГУ, 2009. — С. 20–25

***В. А. КАХНОВІЧ***

# АСАБЛІВАСЦІ МАДЭРНІЗАЦЫІ ПАМЕШЧЫЦКАЙ ГАСПАДАРКІ НА ПАЛЕССІ Ў ПАРЭФОРМЕННЫ ПЕРЫЯД РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ (1861—1914): РЭГІЯНАЛЬНАЯ СПЕЦЫФІКА

Мэтай дадзенага артыкула ёсць акрэсленне на падставе сведчання сучаснікаў і гістарыяграфіі рэгіянальнай спецыфікі ў фактарах уплыву на мадэрнізацыю памешчыцкай гаспадаркі краю.

«Вид огромного, весь небосклон обнимающего бора, вид Полесья напоминает вид моря… первобытная нетронутая сила расстилается широко и державно перед лицом зрителя», — пісаў І. С. Тургенеў [19, с. 3—4]. Акрэсліваючы аб’ект даследавання, тым самым мы выяўляем найбольш істотную складаючую ў гістарычным лёсе краю. Даследчыкі XIX ст. выказваліся вельмі неадназначна аб гаспадарчым развіцці рэгіёна. Так, расійскія вайсковыя тапографы адзначалі, што «лясы і балоты ахопліваюць да 2/3 губерні (Мінскай) і робяць яе непрыдатнай для «хле-



бопашества», апроч таго, «сама почва требует для плодородия усиленных трудов»; І. Зеленскі (1850-я — пачатак 1860-х гг.) заўважае, што «в южных уездах Минской губ. *почва посредственно плодородна, серопесчаная и суглинистая, она не способна дать достаточное пропитание своим обитателям*, и они вынуждены добывать необходимое в лесу и реках, разводят скот, который пасут в лесу и на пойменных диких лугах» [6, с. 7—8, 460—485]. Вобразна характарызуе сітуацыю ў сваіх падарожных нататках М. В. Каяловіч: «На десятки верст (вярхоўе р. Прыпяць) не видно сухой, твердой почвы, — все болото, болото. Потом оказывается где-нибудь неожиданно кочка и на ней две-три избы несчастных белорусов… Все это племя во всех местах носит на себе печать вялости, бессилия, изнеможения. На такой почве, в таком положении… местность очень неблагоприятна для здоровья» [10, с. 24—25]. Інакш уяўляў сабе сітуацыю А. Кіркор: «Полешук-консерватор по принципу… замкнут и оторван от внешнего мира… (но) даже в крепостничестве имеют возможность изыскать изобилие, выручают их рыболовство, охота, сбор лесных даров, много держат скота, в то время как земледелие очень рутинное» [3, с. 346—349]. Усе вышэйадзначаныя асаблівасці непасрэдна накладваліся не толькі на гаспадарку сялян, але і на памешчыцкае гаспадаранне. З гэтага непазбежна вынікае, што менавіта прыродна-геаграфічнае асяроддзе было вызначальным чыннікам у гістарычным лёсе рэгіёна і важнейшай дэтэрмінантай гісторыка-сацыяльных працэсаў яго краёвай супольнасці. Так, «еще в конце XIX в. крестьяне Пинского, Мозырьского и Речицкого уездов как отхожим промыслом занимались весенним лесосплавом и рубкой леса зимой, что приносило им значительный доход и выделяло среди населения Минской губернии», — адзначаў у пачатку XX ст. Ф. Ястрэмскі [14, с. 110, 127]. В. П. Панюціч, першым у беларускай гістарыяграфіі, звяртаючыся да праблемы фарміравання вясковага пралетарыяту ў Беларусі, у прыватнасці, адзначаў, што на мяжы XIX—XX ст. 1) адносна слаба было развіта адыходніцтва на Палессі, 2) гэта абумоўлівалася наяўнасцю ў краі развітых лясных промыслаў: калі ў Мінскай губерні была 31 тыс. адыходнікаў, то колькасць занятых у лясных промыслах дасягала 87—101 тыс. чалавек [15, с. 116, 167—168]. Як вядома, яшчэ з канца XVIII ст., калі далучэнне да Расійскай імперыі, не адмаўляючы і некаторыя негатыўныя наступствы гэтай дзеі, адчыніла магчымасці вялікага імперскага рынку і пацягнула за сабой развіццё, што ўсё болей паскаралася, лясного гандлю, найперш з украінскімі землямі (дзе ўзнік вялікі попыт на драўніну для чарнаморскага і дняпроўскага судабудавання, бровараў, цукраварань, інш. пат-



рэб) і перш за ўсё для памешчыкаў — уладальнікаў вялікіх лясных масіваў, часцей на Палессі, дзе былі мала зручныя рачныя шляхі да зоны попыту на асноўны свой тавар [12].

Важна тое, што, на думку аўтара, у большай ступені, чым скасаванне прыгоннага права па Палажэнням 1861 г. (сяляне на Палессі атрымалі надзелы адносна большыя, чым сяляне ў Заходнім краі ў цэлым) і спрыяльным для мясцовага сялянства законапалажэнням 1863 г. (як вынік паўстання — адначаснае спыненне часоваабавязанага стану [20, с. 442—454]), на сацыяльна-эканамічнае развіццё краю паўплывалі зусім іншыя фактары: каналізацыя (меліярацыя) Палесся Заходняй экспедыцыяй генерала І. Жылінскага і чыгункі. Вялізны патэнцыял распачатых пераўтварэнняў добра адчуў сучаснік падзей В. Маракуеў, які

падарожнічаў па Палессі ў 1874—75 гг.: «Железные дороги и осушение болот, задуманное в обширных размерах в настоящее время, вероятно, весьма скоро изменят картину Полесья и образ жизни ее обитателей» [11, с. 3]. Між іншым, яшчэ і таму, па Л. Саланевічу, што «первобытные способы сельскохозяйственной культуры в первые десятилетия (з 1861 г. — *В. К.*) не могли серьезно отражаться на благосостоянии сельского населения…» [18, с. 96].

Да асаблівасцей памешчыцкай гаспадаркі ў краі звярталіся яшчэ ўсярэдзіне XIX ст. расійскія даследчыкі. Так, Ю. А. Янсон, што ажыццявіў у пачатку 1860-х гг. экспедыцыю і даследаванні на Палессі, адзначаў, падкрэсліваючы менавіта гаспадарчую пасіўнасць мясцовых памешчыкаў: «Пинск и его торговля (в первую очередь — хлебная) охватывает огромное пространство», «весь край, где живет и действует еврейство, опутан, можно сказать, сетью маклеров (целая армия комиссионеров), проникающих во все самые затаенные экономические отношения страны… *и помещик, и крестьянин вынуждены сбывать через них плоды своего труда*» [22, с. 1—3, 5, 17].

Да прыкладу, першая фабрыка (суконная) на тэрыторыі Беларусі з’явілася ў 20-я гг. у маёнтку В. Пуслоўскага Хомск у Кобрынскім павеце. Так, «еще на заре железнодорожного строительства в России, в начале 1860-х гг. группа полесских землевладельцев (кн. Эдвард Друцкий-Любецкий, кн. Владислав и Роман Сангушки, флигель-адъютант кн. Петр Витгенштейн, графы Иван Тышкевич, Август Замойский, Степан и Константин Потоцкие, помещик Казимир Скирмунт) ходатайствовали о постройке частной железной дороги из Белостока на Пружаны, Пинск и Волынь. Они рассчитывали на огромную экономическую отдачу от дороги, на осень 1863 г. было запланировано строительство.



Сначала восстание, а затем и отказ правительства похоронили проект» [9]. Такім чынам цяжкія геаграфічныя ўмовы стымулявалі жыхароў краю да гаспадарчай, прадпрымальніцкай актыўнасці. Іншая справа, што калі мясцовыя памешчыкі прапаноўвалі праклaсці шляхі толькі ў заходняй, найбольш асвоенай частцы Палесся (Загароддзе), то дзяржава, відаць, менш абмежаваная ў сродках, ажыццявіла маштабны праект будаўніцтва Палескіх чыгунак (1883—1887). Дзякуючы чыгунцы ўзрасла мабільнасць насельніцтва, з’явіліся новыя прадпрыемствы (колькасць прадпрыемстваў узрасла з 674 да 4000 з гадавым аб’ёмам вытворчасці амаль на 60 млн руб. на пачатку XX ст.), зварот грузаў на Палескіх чыгунках узрос у 50 разоў, з’явіліся мясцовыя прадпрымальніцкія дынастыі Скірмунтаў, Пуслоўскіх, Лур’е [7—9].

Асаблівае значэнне мела Заходняя экспедыцыя, засвоіўшая 4,8 млн руб. асігнаванняў і меліяраваўшая 450 тыс. дзесяцін зямлі, у т. л. 229 тыс. дзесяцін прыватнаўласніцкай і сялянскай зямлі і 221 тыс. — казённай. «Общее влияние осуществленных канализационных работ охватило до 3 млн десяцін (38 %) площади Полесья... «Это привело, — са справаздачы І. Жылінскага, — к сокращению заболеваемости населения, повысило возможности для скотоводства и земледелия, улучшило и сделало доступными огромные лесные массивы» [4, III, с. 587—603]. Іншая справа, што меліярацыйныя працы ахапілі ў асноўным тэрыторыю Рэчыцкага павета ва ўсходняй частцы Палесся [21]. Адказ на пытанне «чаму?» досыць адназначна дае рэмарка з «Вопыту апісання Магілёўскай губерні ў гістарычных і г. д. адносінах» пад рэдакцыяй А. С. Дэмбавецкага: «В Гомельском уезде болото Случ-Палки (3100 дес., поросло лозой, березой, ольхой) *осушивается по просьбе кн. Паскевича* Западной экспедицией по осушению болот…», «вообще же *по просьбе кн. Паскевича Министерство государственных имуществ разрешило* начальнику экспедиции осуществить осушение болот в имениях князя, работы были начаты в 1879 г. и к 1881 г. была окончена уже магистральная канава на Хотимском участке Дятловичской волости» [13, с. 228—229].

Такім чынам, па-першае, знаходзіць сваё тлумачэнне вядомы ў беларускай гістарыяграфіі факт абвостранай і асабліва абвостранай барацьбы за сервітуты на Палессі (В. П. Панюціч, А. Р. Бухавец і многія інш.) [2, с. 52—53, 94—95, 159, 385, 397], а па-другое, вызначальны характар расійскай імперскай палітыкі і рэжыму нераўнапраўя ў Заходнім краі, што да ўмоў і перспектыў мадэрнізацыі памешчыцкай гаспадаркі ў краі: «рэжым абмежавання польскага землеўладання на карысць рускага» (А. П. Жытко, таксама С. М. Самбук) [5, с. 105—109, 133**;** 17, с. 61—62,



74—75, 119]. Першае, як адзначаецца В. П. Панюцічам, было праявай супраціўлення памешчыкаў, у цэлым досыць павольна мадэрнізуючых сваю гаспадарку (хоць адносна і больш паспяхова, чым уласна расійскія памешчыкі). Менавіта тая невялікая іх частка (да 1/6 на Палессі**!**), што перайшла да капіталістычнага гаспадарання, — настойвала на развіцці сервітутных угоддзяў [14, с. 45, 101—104]. Дадаць жа ў тлумачэнні гэтай з’явы хацелі б тое, што чыннік палягае ў той натуральнай акалічнасці, што, як вядома, корм з пастбішчаў у 4 разы таннейшы ў параўнанні са стойлавым утрыманнем жывёлы [1, с. 525]. Па-другое, не адмаўляючы істотнага ўплыву сацыяльна-прававога (палітычнага) фактара ў лёсе рэгіёна (паводле А. П. Жытко), у дачыненні да Палесся паўстае рэгіянальная спецыфіка. Тое выяўляецца ў наступным прапаноўваемым ранжыраванні (умоўным) фактараў уплыву на мадэрнізацыю памешчыцкай гаспадаркі на Палессі: 1) фактар уплыву спецыфічнага прыроднага асяроддзя; 2) традыцыйная схільнасць жыхароў краю да прадпрымальніцтва; 3) палітычны абмежавальны рэжым царызму ў краі для «польскага» (=мясцовага і

каталіцкага найперш) дваранскага памешчыцкага гаспадарання; 4) уплыў тэхнічных праектаў (меліярацыя, чыгункі; як бачна, дадзены фактар непарыўна звязаны з першым, маштабнасць яго прама залежала ад памераў дзяржаўных капіталаўкладанняў); 5) фактар уплыву ўласна Аграрнай рэформы 1861 г.

## ЛІТАРАТУРА


1. Агроэкологическая оценка земель, проектирование адаптивно-ландшафтных систем земледелия и агротехнологий / под ред. акад. РАСХН В. И. Кирюшина и А. Л. Иванова. М., 2005.
2. Гісторыя сялянства Беларусі са старажытных часоў да нашых дзён. Т. 2. Ад рэформы 1861 г. да сакавіка 1917 г. / пад рэд. В. П. Панюціча [і інш.]. Мінск, 2002.
3. Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении. Т. 3. Ч. 1. Минск, 1993. (Репринтное воспр. изд. 1882 г.).
4. *Жилинский, И. И.* Очерк работ Западной экспедиции... / И. И. Жилинский. СПб., 1899.
5. *Жытко, А. П.* Дваранства Беларусі перыяду капіталізму. 1861—1914 / А. П. Жытко. Мінск, 2003.
6. *Зеленский, И.* Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального Штаба / И. Зеленский. СПб., 1864. Т. 15. Ч. 1.
7. *Киштымов, А.* Скирмунты: династия предпринимателей / А. Киштымов // Деловой вестник. 1994. № 9—10.





8. *Киштымов, А*. Экономический потенциал Полесья в начале XX века / А. Киштымов. Загароддзе-3. Матэрыялы навук.-краязн. канф. «Палессе ў ХХ ст.», 2000 г. Минск, 2001.
9. *Киштымов, А*. Этапы железнодорожного строительства на Беларуси / А. Киштымов // Гістарычны альманах. Гародня. 2002. Т. 7.
10. *Коялович, М. О.* Расселение племен Западного края России / М. О. Коялович. М., 1863.
11. *Маракуев, В. Н.* Полесье и полешуки. Из путевых записок / В. Н. Маракуев. Вып 1. М., 1879.
12. *Мерзляк, В. И.* Лесная торговля с Украиной в конце XVIII — первой трети XIX ст. / В. И. Мерзляк, В. В. Новицкий // Актуальныя праблемы сацыяльнай гісторыі Беларусі (канец XVIII — пачатак XIX ст.): матэрыялы Рэсп. навук.-тэарэт. канф. (г. Мінск, 23 лютага 2007 г.). Минск, 2007.
13. Опыт описания Могилевской губернии… / под ред. А. С. Дембовецкого. Могилев-на-Днепре. 1882. Кн. 1.
14. Поземельное устройство крестьян Минской губернии / сост. Ф. Ястремский. Минск, 1901.
15. *Понютич, В. П.* Из истории формирования пролетариата Белоруссии 1861—1914 гг. / В. П. Понютич. Минск, 1969.
16. *Понютич, В. П.* Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861—1900 гг. / В. П. Понютич. Минск, 1990.
17. *Самбук, С. М.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX века / С. М. Самбук. Минск, 1980.
18. *Солоневич, Л.* Краткий исторический очерк Гродненской губернии за сто лет ее существования, 1802—1902 / Л. Солоневич. Гродно, 1901.
19. *Тургенев, И. С.* Поездка в Полесье / И. С. Тургенев. СПб., 1899.
20. *Фридман, М. Б.* Реализация реформы 1861 г. в Минской губернии / М. Б. Фридман // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. Минск, 20—25 сентября 1962 г. Минск, 1964.
21. ЦГАБ (Цэнтральны гістарычны архіў Беларусі, г. Мінск). Ф. 1461. (Заходняя экспедыцыя па асушэнню балот). Воп. 2. Спр. 1—32. Воп. 3. Спр. 6 (Дамоўленасці па правядзенню асушкі забалочаных зямель).
22. *Янсон, Ю.* Пинск и его район // Труды экспедиции, снаряженной императорским вольным экономическим и русским географическим обществами для исследования хлебной торговли и производительности в России / Ю. Янсон. СПб. Вып. 3. 1869.